Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ
НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 17 | Год выдання 1-ы | 12 чэрвеня 1935 г. | № 17

## Гандаль капчонасцямі прывесці ў адпаведнасць з запатрабаваннямі і прынцыпамі культурнага савецкага гандля

Умовы адчыненага шырокага продажу прам-і продтавараў карэнным чынам адрозніваюцца ад умоў нарміраванага снабжэння, калі прынцып „лопай, што даюць“ увайшоў „в плоть и кровь“ даволі значнай праслойкі работнікаў гандлёвага апарата.

У сучасных умовах разварота ненарміраванага гандлю—савецкі спажывец патрабуе ад гандлёвага апарата такой арганізацыі гандлю, якая ў максімальнай меры задаволілабы яго запатрабаванні.

Без такой арганізацыі гандлю план таваразварота знаходзіцца пад рэальнай пагрозай зрыва.

Н жаль, гэтай азбучнай ісціны не зразумелі паасобныя звенні сістэмы Белхарчгандля. Аб гэтым сведчыць друкуемая ў гэтым нумары бюлетэня пастанова Наркамунутгандля БССР аб гандлю мясакапчонасцямі.

Замест таго, каб забяспечыць спажыўца разгорнутым асартыментам мясапрадуктаў, сістэма Белхарчгандля продаж капчонасцяй ператварыла ў гандаль аднэй толькі каўбасой, заставіўшы зусім незадаволеным попыт спажыўца на ветчыну, грудзінку і інш. віды капчонасцяй.

Замест таго, каб гандаль капчонасцямі ў максімальнай меры наблізіць да рабочых акраін, сістэма Белхарчгандля канцэнтравала яго толькі ў цэнтральнай частцы гарадоў.

Замест унядрэння культурных метадаў гандлёвай работы і забеспячэння спажыўцу магчымасці выбара таго ці іншага гатунка каўбасы—паасобныя работнікі магазінаў Белхарчгандля знаходзяць магчымым хаваць яе ў скрынях без таго, каб вывесіць яе на відным месцы.

Неабходнай умовай разварота адчыненага продажу тавараў з'яўляецца ўчот попыта паасобных раёнаў. Між тым, і пра гэту ўмову забываюць работнікі сістэмы Белхарчгандля, якія завозяць капчонасці, без учота магчымасцяў гандлю данага магазіна і попыта абслугоўваемых ім спажыўцоў.

Такая пастаноўка гандлю капчонасцямі супярэчыць усім прынцыпам культурнага савецкага гандлю.

Пастанова Наркамунутгандля БССР намячае цэлы рад зусім канкрэтных мерапрыемстваў па арганізацыі гандлю капчонасцямі. Пашырэнне асартымента капчонасцяй і сеткі па гандлю імі, набліжэнне яе да рабочых акраін, арганізацыя і адпаведнае абсталяванне спецыялізаванай сеткі ў асноўных гарадскіх цэнтрах, падрыхтоўка неабходных кадраў прадаўцоў для гандлю капчонасцямі і забеспячэнне сеткі неабходным інвентаром—вось мінімум тых мерапрыемстваў, да ажыццяўлення якіх павінна зараз-жа прыступіць сістэма Белхарчгандля і ўсе астатнія арганізацыі, гандлюючыя капчонасцямі.

Рай. гарунутгандлі павінны ўзяць пад штодзённы кантроль становішча гандлю капчонасцямі з тым, каб забяспечыць унядрэнне культурных метадаў гандлю капчонасцямі і задавальненне растучых запросаў савецкага спажыўца.

А.

## У Наркамунутгандлі БССР

◆ За адсутнасць барацьбы з фактамі самаснабжэння, за неўпарадкаванне справы водпуска тавараў работнікам менскага Універмага, загадам Наркома Унутранага Гандля БССР т. Гурэвіча абвешчана вымова дырэктару універмага т. ДУБЕРШТЭЙНУ.

Загадчык футровым аддзелам універмага ДЗЕНЧУК за хаванне дэфіцытных тавараў пад прылаўкам, продаж іх сваякам і знаёмым—зняты з работы і прыцягнут да судовай адказнасці.

Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнут рад другіх работнікаў універмага.

◆ Наркамунутгандаль БССР дазволіў ОРС"у Лесбела прадаваць пячоны хлеб праз свае крамы рабочым, занятым на падсочцы і зборы жывіцы,

лясной ахове і інш. рабочым, якія па ўмовах работы знаходзяцца на адлегласці больш 5 клм. ад месца знаходжання гандлёвай сеткі. Хлеб можа адпускацца ў размеры ад 2 да 6 кгр. у адны рукі, а пры адлегласці больш 10 клм, у размеры ад 2 да 10 кгр. ў адны рукі.

◆ Побач з адчыненнем сеткі па гандлю паперай і канц. прыладамі ў Добрушы, Рудзенску, Багушэўску, Грэску і ў Мехаўскім раёне, Наркамунутгандаль прапанаваў Белдзяржвыдавецтву і БАКТ-у арганізаваць сетку па гандлю гэтымі таварамі ва ўсіх астатніх уноў арганізаваных раёнах. Магазіны павінны быць адчынены да 25 чэрвеня г. г.

◆ Белхарчгандлю дазволена дадаткова арганізаваць гандаль мясакапчонасцямі ў Добрушы і Полацку.

◆ Наркамунутгандль дазволіў прадаваць простыя баранкі з пшанічнай мукі 85 проц. памола ва ўсёй сеці дзяржгандля, спажывецкай кааперацыі і ОРС'аў па 10 гарадах.

Устаноўлена адзіная прадажная рознічная цана на баранкі простыя з пшанічнай мукі 85 проц. памола 4 р. 20 к. за кгр.

◆ Норма водпуска малака ва ўсіх магазінах свабоднай прадажы ўстаноўлена Наркамунутгандлем у размеры не звыш 2-х літраў ў адны рукі.

◆ Загадам па Наркамунутгандлю БССР дырэктарам Беларускай канторы „ГАСТРАНОМ“ назначан т. ГУРЭВІЧ С.

◆ Наркамунутгандаль арганізаваў з 1 чэрвеня у сістэме Белхарчгандля гаспадарча-разліковую кантору „Бакалея“. Канторы прапанавана адчыніць з 1 ліпеня г. г. тры спецыялізаваных магазіна ў Менску, Віцебску і Гомелі.

## ВЫТВОРЧАЯ ХРОНІКА

У 1935 годзе фабрыка імя Фрунзе выпусціць 3 млн. штук грэбняў, замест 2 млн. штук у мінулым годзе. Розных гузікаў (акрамя палатняных) будзе выпушчана 21 млн. штук, замест 13.500 тыс. штук у мінулым годзе.

Адначасова павялічваецца асартымент выпускаемых гузікаў. Будуць выпушчаны фасонныя гузікі. Для гэтай мэты арганізуецца спецыяльны цэх.

Павялічваецца таксама выпуск розных шчотак. У прыватнасці, будзе выпушчана 273 тыс. зубных шчотак, замест 140 тыс. штук у мінулым годзе.

* * *

Па лініі Белметалатрэста павялічваецца выпуск пасуды. У гэтым годзе запланіравана выпусціць рознай пасуды 401 тона, замест 176 тон у мінулым годзе.

Гомельская ложкавая фабрыка выпусціць 16 тыс. ложак замест 10.500 штук у мінулым годзе.

## Белтаварбюро ў барацьбе за якасць тавараў

Сэктар таварных экспертыз Белтаварбюро ўстанавіў, што атрыманыя Горспажыўсаюзам ад Крэменчугскай базы Аблспажыўсаюза швейныя вырабы прадукцыі ўкраінскіх швейных фабрык на суму 5298 руб. маюць значныя дэфекты ў пашыву, няроўныя берагі, зашытыя дыркі, пятны і т. д.

У адпаведнасці з інструкцыяй аб разбракоўцы швейных вырабаў экспертыза ўстанавіла скідку ў 13 проц. з сумы вырабаў у 4105 руб. і ў 10 проц.— з сумы вырабаў у 926 руб., а дамскія пальто на 267 руб. рашыла звярнуць пастаўшчыку, як недапушчаныя ў продаж.

* * *

Менская база Белкаапсаюза атрымала ад Сміловіцкай войлачнай арцелі „Чырвоная зорка“ будаўнічы войлак, які з прычыны выключна дрэннай апрацоўкі і забруджання не можа быць пушчаны ў продаж і належыць пераапрацоўцы, як сыравіна.

Па распараджэнню Наркамунутгандля БССР акт сэктара таварных экспертыз Белтаварбюро накіроўван пракурору для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

* * *

У рэзультаце агляду атрыманай галантарэйнай фабрыкай імя Куйбышэва ад Ленінградскай дзіцячай камісіі фарнітуры для чамаданаў на 19.536 руб. сектар таварных экспертыз Белтаварбюро ўстанавіў, што з прычыны нізкай якасці, некамплектнасці і адсутнасці некаторых частак, неабходных для апрацоўкі чэмаданаў, 60 проц. гэтай фарнітуры не можа быць дапушчана ў вытворчасць і належыць звароту пастаўшчыку.

Па распараджэнню Наркамунутгандля БССР гэты акт экспертызы накіраван Аблунутгандлю для прыняцця адпаведных мер уздзейнічання.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## АБ ГАНДЛІ МЯСАКАПЧОНАСЦЯМІ

### Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

2 Чэрвеня 1935 г. **№ 263** г. Менск

Праведзеная ў Менску і Віцебску праверка становішча гандлю мясакапчонасцямі ў сеці Белхарчгандля выявіла, што гандаль гэты, маючы выключнае значэнне, арганізаван вельмі дрэнна:

а) у магазінах, як правіла, няма асартымента. У Віцебску гандлявалі толькі адным сортам калбасы; у Менскіх магазінах таксама адсутнічае ветчына, грудзінка, полендвіца, палтаўская і т. д.

б) прадаўцы капчонасцяй у большасці выпадкаў падабраны дрэнна. Прадаўцы не маюць належнага вопыта ў рэзцы калбасы.

в) у магазінах не адведзена даволі месца для гандлю калбасой. Калбаса хаваецца ў скрынях замест таго, каб быць вывешанай на спецыяльных вешалках у складзе.

г) няма спецыялізаваных магазінаў калбасных вырабаў і т. д., на акраінах зусім няма гандлю капчонасцямі.

д) праверкай таксама выяўлена, што Белхарчгандаль, яго канторы і буйныя магазіны на месцах не звязаны з вытворчымі арганізацыямі і завоз капчонасцяй у сець вытвараецца механічна, без учота попыта канкрэтнага магазіна і абслугоўваемых ім спажыўцоў.

У мэтах упарадкавання гандлю капчонасцямі і ўнядрэння ў гэтую галіну гандлю метадаў культурнага гандлю—НАРКАМУНУТГАНДЛЬ ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Абавязаць Белхарчгандаль т. ЦІМЕНКО ў гарадах,дзе дазволен гандаль капчонасцямі, пашырыць сетку, гандлюючую капчонасцямі ў асаблівасці на акраінах, пры вакзалах, у месцах скаплення, на базарах і т. д.

2. Зацвердзіць ніжэйнаступную сетку спецыялізаваных магазінаў па гандлю мясакапчонасцямі: па лініі Белхарчгандля: у Менску—2 магазіна, у гарадах: Віцебску, Гомелі, Магілёве, Бабруйску, Оршы—па аднаму.

3. Дазволіць у спецыялізаваных магазінах гандляваць побач з мясакапчонасцямі—вінаводачнымі вырабамі, кансервамі і французкімі булкамі з тым, аднак, каб для гандлю мясакапчонасцямі было адведзена не менш 65—70 проц. гандлёвай плошчы.

4) Абавязаць т. ЦІМЕНКО выдзяліць патрэбныя асігнаванні ў межах сум, дазволеных на бягучы рамонт, для прывядзення ў парадак аддзелаў мясакапчонасцяй у гастранамічных магазінах і па абсталяванню спецыялізаваных магазінаў.

5) Белхарчгандаль т. ЦІМЕНКО прыняць неадкладныя меры к падрыхтоўцы прадаўцоў па гандлю мясакапчонасцямі: у Менску 15 чалавек, Віцебску і Гомелі па 8 чалавек, Магілёве, Бабруйску і Оршы—па 5 чалавек.

Прасіць ЦП Саюза работнікаў дзяржгандлю т. ЗАХАРАВУ і ЦП Саюза кааперацыі т. МАНЖАЛЕЙ аказаць садзейнічанне Белхарчгандлю ў падрыхтоўцы прадаўцоў па гандлю мясакапчонасцямі, галоўным чынам, за лік старых прадаўцоў, у мінулым работаўшых па калбасных магазінах і цяпер скарыстоўваемых не па сваёй спецыяльнасці.

Тав. ЦІМЕНКО прадставіць ЦП Саюза дзяржгандлю і кааперацыі спіс работнікаў—прадаўцоў калбасных вырабаў, не скарыстоўваемых па сваёй спецыяльнасці.

6. Абавязаць Белхарчгандаль т. ЦІМЕНКО забяспечыць наяўнасць належнага інвентара, у асаблівасці нажэй, упаковачнай паперы, дубовых дошак для рэзкі, лапатак і т. д.

7. Белхарчганлю зацвердзіць па Менску, Віцебску і Гомелю спецыяльнага гандлёвага работніка па кожнай канторы, адказваючага за снабжэнне мясакапчонасцямі і за пастаноўку гандлю імі.

8. Устанавіць, што гандлюючыя арганізацыі абавязаны кожныя 5 дзён даваць абавязковыя для іх заяўкі Мясакамбінату на капчонасці—у патрэбным асартыменце.

Прыняць да ведама заяву т. ГРАВІТА, што ім будзе забяспечана выкананне заяўкі гандлючых арганізацый у поўным асартыменце.

8. Надаючы выключнае значэнне арганізацыі шырокага гандлю сасіскамі і сардэлькамі—абавязаць:

а) трэст кафэ і рэстаранаў побач з арганізацыяй спецыялізавана-сасісачнай арганізаваць таксама продаж сасісак у гарачым відзе ў садзе „Профінтэрн“ (у растаране кафэ 1 ў спецыяльным кіоску); у парку культуры і адпачынку, каля вакзала, у буфетах кіно „Чырвоная Зорка“ і „Пролетары“;

б) Белхарчгандль—гандляваць гарачымі сасіскам на базарах і ў магазінах, пры якіх маюцца закусачныя аддзяленні.

Прыняць да ведама заяву т. ГРАВІТА, што для арганізацыі гандлю сасіскамі у гарачым выглядзе, будуць апускацца сасіскі стандартнай вагі;

в) Белхарчгандлю шырока рэкламіраваць у магазінах, гандлюючых мясакапчонасцямі, продаж сасісак, забяспечыўшы у наяўнасці сталы асартымент свежых сасісак.

9. Лічачы зусім недапушчальным наглядаючыяся факты, калі на мясакамбінатах падводы гандлюючых арганізацый прастойваюць па 5-6 гадзін,—прапанаваць т. ГРАВІТУ прыняць неадкладна меры к упарадкаванню водпуска мясакапчонасцяй на камбінаце; а кіраўнікам гандлюючых арганізацый прымацаваць сталых возчыкаў для развозкі па магазінам калбасных вырабаў, выдзяліўшы і абсталяваўшы для гэтай мэты спецыяльныя фургоны.

10. Паставіць перад Белхарчгандлем канкрэтную аператыўную задачу—павялічэнне на працягу чэрвяня месяца рэалізацыі капчонасцяй на 50 проц., а сасісак на 100 проц.

Абавязаць таксама „Белгастраном“ т. ГУРВІЧА і Трэст кафэ і рэстаранаў т. ГОФМАНА забяспечыць павялічэнне рэалізацыі мясакапчонасцяй па магазіну „Гастраном“ і прадпрыемствам трэста.

11. Даручыць т. ТОЛКАЧОВУ праверыць сетку, гандлюючую мясакапчонасцямі ў якой ступені ў гэтай секцыі захоўваюцца санітарна-гегіенічныя ўмовы гандлю, прыцягваючы вінаватых у парушэнні санітарна-гігіенічных правіл да адказнасці.

12. Канстатуючы пасіўнасць і недастаткова праяўленую рэгулюючую ролю Горунутгандляў у наладжванні такой важнай галіны гандлю,—усім Гор. Райунутгандлям уперад сістэматычна правяраць пастаноўку гандлю па паасобным галінам (насычанасць сеці, асартымент, якасць, метады продажу і т. д.) з тым, каб Гор. райунутгандлі забяспечылі належнае ўздзейнічанне на прамысловасць і гандлюючыя арганізацыі ў галіне вытворчасці, так і гандлю.

Народны Камісар Унутранага
Гандлю БССР **Н. Гурэвіч**

## Палепшыць якасць марожанага

**Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР**

**15 мая 1935 г. № 224. г. Менск.**

Гандаль марожаным у Менску праводзіцца выключна некультурна. У большасці крам Горспажыўсаюза і Харчгандля няма дастатковай колькасці пасуды, зусім няма вафель, пасуда добра не вымываецца, няма гарачай вады. Наведвальнікі стаяць ў чарзе за лыжкамі, няма стандартнай пасуды для марожанага, а таксама і форм якімі, набіраецца марожанае, у сувязі з чым марожанае адпускаецца толькі па вазе.

Таксама ўстаноўлена, што ў апошнія дні нагляваліся чаргі за марожаным, паколькі Белкаапмалако не адпускае патрэбнай колькасці марожанага, у адпаведнасці з устаноўленым планам.

Лічачы зусім нецярпімым такое становішча гандля марожаным Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Белкаапмалако—т. Глікмана забяспечыць неадкладна выпуск марожанага ў адпаведнасці з устаноўленым планам.

Папярэдзіць т. Глікмана, што калі Белкаапмалако не забяспечыць выпуск марожанага ў патрэбнай колькасці і калі якасць выпускаемага марожанага не палепшыцца, то Наркамунутгандаль будзе прымушан забраць сыравіну ад Белкаапмалако і перадаць яе іншай арганізацыі.

2. Абавязаць Горунутгандаль (т. Сафьяна) неадкладна забяспечыць, каб:

а) гандлюючыя арганізацыі арганізавалі развозны гандаль марожаным і вафлямі;

б) гандаль марожаным у магазінах праводзіўся бы пры ўмове забеспячэння добрай прамыўкі пасуды і лыжак гарачай вадой. Там, дзе немагчыма арганізацыя прамыўкі гарачай вадой, прадаваць марожанае выключна ў вафлях;

в) устанавіць водпуск марожанага ў стандартнай пасудзе, арганізуючы дакладную праверку за тым, каб не было фактаў абмана спажыўцоў (непоўная накладка марожанага ў пасуду).

3. Тав. Каменецкаму высвятліць дастатковасць вафель і прыняць меры да поўнага забеспячэння гандлюючых арганізацый вафлямі.

4. Тав. Каменецкаму праз 5 дзён арганізаваць праверку выканання гэтага рашэння.

Нам. Наркома Унутранага
Гандля БССР **І. Верба**

## Да адказнасці за абман спажыўца

**Пастанова упаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры Наркамунутгандлі СССР па БССР**

**23 мая 1935 г. № 32 г. Менск**

Разглядзеўшы матэрыял аб фактах адліва водкі работнікамі ларка № 23 7-й арцелі інвалідаў, лічыць установленым, што:

1. Загадчык ларка № 23 Бэркман разам з работнікамі прылаўка гэтага ларка Сынко і Макавец сістэматычна практыкавалі незаконны пераліў водкі з літравай пасуды у поўлітровую з мэтай адліва водкі ў сваю карысць.

Старшыня 7-й арцелі інвалідаў Дынерштэйн за паказаныя факты сістэматычнага адліва водкі незаконна аштрафаваў Бэркмана на 25 руб., а прадаўцоў Сынко і Макаўца па 15 руб., замест таго, каб зняць апошніх з работы.

Пераведзены з ларка № 23 у ларок № 2 Бэркман працягваў сістэматычна недаліваць піва і інш. прахладжальныя напіткі, а прадаўцы Сынко і Макавец у тым-жа ларку № 23 працягвалі абмерваць спажыўцоў.

Выходзячы з гэтага **пастанаўляю**:

1. Прапанаваць старшыні Белкаапінсаюза т. Ганцэвічу зняць з работы загадчыка ларка 7-й арцелі Бэркмана, перадаўшы справу аб ім следчым органам.

На работнікаў прылаўка Сынко і Макаўца накласці адміністрацыйнае спагнанне—суровую вымову з папярэджаннем, перакінуўшы іх на іншую работу, якая не звязана з водпускам водкі, піва і інш. прахладжальных напіткаў.

Аб старшыні праўлення 7-й арцелі т. Дынерштэйне, які ад партыйных органаў атрымаў спагнанне—вымову за факты парушэння савецкай палітыкі цэн у ларках арцелі, які не забяспечвае праводзення ў жыццё дырэктыў партыі і ўраду аб барацьбе з фактамі абмервання, абвешвання і парушэння рознічных цэн—паставіць пытанне перад праўленнем Белкаапінсаюза аб зняцці яго з работы.

Упаўнаважаны Дзяржаўнай Гандлёвай
Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР **Толкачоў**

# Парадак прыёмкі бутэлек ад пакупнікоў

## ЗАГАД па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандлю БССР

19 мая 1935 г. **№ 175** г. Менск

Праверкай парадка прыёмкі ад пакупнікоў бутэлек ад вінаводачных вырабаў і малакапрадуктаў устаноўлена:

а) гандлёвыя арганізацыі (загадчыкі магазінаў), пры прыёмцы віна-водачных бутэлек ад пакупнікоў не аплачваюць кошту бутэлькі, а патрабуюць браць тавар за здаваемыя бутэлькі;

б) малочныя магазіны пры водпуску кефіра, слівак і інш. прадуктаў—выдаюць на бутэлькі талёны, без прад'яўлення якіх бутэлька магазінамі не прымаецца.

Наркамунутгандаль БССР лічыць вышэй прыведзеную практыку прыёмкі бутэлек ад пакупнікоў грубым парушэннем метадаў культурнага совецкага гандля.

Выходзячы з гэтага загадваю:

1. Устанавіць, што ўсе магазіны, гандлюючыя вінаводачнымі вырабамі і малочнымі прадуктамі, абавязны прымаць ад пакупнікоў усе вінаводачныя і малочныя бутэлькі без усякіх затрымак і аплачваць за кожную бутэльку згодна існуючых прэйскурантных цэн.

2. Кіраўнікам гандлюючых арганізацый неадкладна адмяніць усе ўказанні аб прыёмцы бутэлек, якія супярэчаць гэтаму загаду і забяспечыць суровы нагляд за выкананнем пункта І-га гэтай пастановы, які ўстанаўлівае парадак прыёмкі ад пакупнікоў бутэлек.

3. Даручыць Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі ўстанавіць сістэматычны нагляд за выкананнем гэтага загада.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# Ц Э Н Ы

## ПРЭЙСКУРАНТ

### адпускных і рознічных цэн на крупу, дзейнічаючых з 1 чэрвеня 1935 года.

| Назва і гатунак крупы | Адпускная цана за цэнтнер франко-вагон станц. назначэння, або склад Загатзерно (у рублях). | Рознічная цана за кгр. (у руб. і кап.). | |
|---|---|---|---|
| Пшано талч. I гатунка | 202 | 2 | 20 |
| „ II „ і дранец | 183 | 2 | 00 |
| „ драбленае | 155 | 1 | 70 |
| Крупа грэчневая ядрыца | 420 | 4 | 50 |
| „ „ продзельная | 345 | 3 | 70 |
| „ ячневая пенсак і полбян | 116 | 1 | 30 |
| „ „ драбленая | 135 | 1 | 50 |
| „ перловая 3-х номерная | 230 | 2 | 50 |
| „ „ семіномерная №№ 1 і 2 | 268 | 2 | 90 |
| „ „ „ №№ 3 і 4 | 296 | 3 | 20 |
| „ „ „ №№ 5, 6 і 7 | 333 | 3 | 60 |
| „ кукурузная | 139 | 1 | 50 |
| „ аўсяная драбленая | 116 | 1 | 30 |
| „ „ не драбленая | 88 | 1 | 00 |
| „ манная | 464 | 5 | 00 |
| Гарох лушчоны | 373 | 4 | 00 |
| „ сталовы буйны 7,25 | 326 | 3 | 50 |
| „ „ сярэдні і дробны | 279 | 3 | 00 |
| „ серы | 205 | 2 | 20 |
| Фасоль белая | 420 | 4 | 50 |
| „ цветная | 373 | 4 | 00 |
| Чэчэвіца тарэлачная | 279 | 3 | 00 |
| „ дробна-насенная | 158 | 1 | 70 |
| Бабы кармавыя | 158 | 1 | 70 |
| Рыс І-га гатунка | 740 | 8 | 00 |
| „ ІІ-га гатунка | 646 | 7 | 00 |
| „ сечка | 464 | 5 | 00 |

Нач. аддзела арганізацыі гандлёвай сеці
і рэгулявання цэн Наркамунутгандля
БССР **Каменецкі**

## Аб адмене камерцыйных цэн на парную рыбу

### Загад па Наркамунутгандлю БССР

13 мая 1935 г. **№ 168** г. Менск

На падставе тэлеграмы Саюз Наркамунутгандля № 12075—загадваю:

1. Адмяніць продаж парнай рыбы, а таксама лёдавай і мокрай марозкі з 13 мая 1935 г. па камерцыйным цэнам.

2. Устанавіць, што ўся парная рыба, мокрай і лёдавай марозкі паступае ў продаж у другім квартале ва ўсёй гандлёвай сеці па нармальным цэнам.

3. Продаж астатніх рыбтавараў, як-та: салёнай, капчонай, сухой марозкі і селядцоў—застаецца ва ўстаноўленым раней парадку, рэалізацыя праводзіцца па камерцыйным і нармальным цэнам—у адпаведнасці з устаноўленымі фандамі.

4. Розніцу ад пераацэнкі рыбы парнай і марожанай аднесці за рахунак дзяржбюджэта. Акты зняцця астаткаў завяраюцца загадчыкам магазіна, прадстаўніком торга па дзяржгандлю і членам рэўкамісіі па спажывецкай кааперацыі, а па ОРС-ам прадстаўніком рабочага кантроля завода.

Нам. Наркамунутгандля БССР **І. Верба**

## Дадатак да загада № 168 па НКУГ БССР

У дадатак да загада № 168 ад 13/V-35 г. аб адмене камерцыйнай цаны на парную рыбу і продажы парнай рыбы, марожанай, мокрай і ледовай марозкі па нармальным цэнам — растлумачваю, што ўся парная рыба, марожаная мокрай і ледовай марозкі за выключэннем краснай і ласосевай, паступаючая ў гандлюючыя арганізацыі як па камерцыйнаму, так і па нармальнаму фонду ў ІІ-м квартале—прадаецца па нармальным цэнам.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **Верба**

# Дадатак да прэйскуранта адзіных цэн на кансервы

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандлю СССР

17 мая 1935 г. **№ 365.** г. Масква.

1. У дадатак да пастановы Наркамунутгандлю СССР ад 7 мая 1935 г. за № 332 устанавіць наступныя адпускныя цэны франко-станцыя (прыстань) назначэння на наступныя кансервы:

| Назва кансерваў | Расфасоўка у грамах нето | Цана за 1 банку па ўсёй тэрыторыі СССР, акрамя ДУК | |
|---|---|---|---|
| | | I гатунак | Выш. гатун |
| Кампот вішня у бутэльках (б. кошту бутэляк) . . | 1000 г. | 4.20 | — |
| Сельдзь мурманская і беламорская ў масле . . | 150—160 гр. | 2.09 | — |
| | 500—520 „ | 4.49 | — |
| Сельдзь чорнаморская, беламорск. і мурманская ў тамаце . . . . . | 320—330 „ | 2.57 | — |
| | 350—360 „ | 2.66 | — |
| | 380 „ | 2.74 | — |
| | 400 „ | 2.93 | — |
| | 453 „ | 3.27 | — |
| | 520 „ | 3.72 | — |
| Кількі . . . . . . | 520 „ | 4.49 | 5.84 |
| Цэльныя памідоры . . . | 1000 „ | 3.64 | 4.37 |
| Какао з згушчон. малаком. | 410 „ | 5.20 | — |

2. Устанавіць адпускныя цэны на кансервы „пеламіда“ і „сельдзь каспійская у тамаце“ на ўзроўні цэн, зацверджаных пастановай Наркамунутгандля СССР ад 7 мая 1935 г. за № 332 на кансервы з буйнай часціковай рыбы; на кансервы „Чырус“ у тамаце і масле—на ўзроўні цэн, зацверджаных вышэйпаказанай пастановай, на кансервы „Скумбрыя“ і „Кефаль“ у тамаце і ў масле—адпаведна; на кансервы „Фарш“ з белай і чырвонай рыбы—на ўзроўні цэн, зацверджаных на кансервы з філе часціковай рыбы; на кансервы „Сцерлядзь“ у тамаце і ў уласным саку—на ўзроўні цэн, зацверджаных на кансервы „Осетрына“, „Белуга“, „Севрюга“; на кансервы „Свёкла і морква“—на ўзроўні цэн, зацверджаных на кансервы „Бабы стручковыя“.

3. Прыраўняць цэны на кансервы:

а) шпроты у расфасоўцы 330 грам нето да цэн, зацверджаных на шпроты у расфасоўцы 320 грам нето;

б) сельдзь мурманская і беламорская у масле ў расфасоўцы 360 грам нето да цэн, зацверджаных на кансервы „Сельдзь беламорская і мурманская у масле“ у расфасоўцы 380 грам нето;

в) на кансервы Сардзіны „Маяк“ у расфасоўцы 225 грам нето,—да цэн, зацверджаных на кансервы Сардзіны—„Маяк“ у расфасоўцы 235 грам нето;

г) на кансервы сардзіны (івасі) ў тамаце у расфасоўцы 425 грам нето—да цэн, зацверджаных на кансервы—сардзіны (івасі) у тамаце ў расфасоўцы 420 гр. нето;

д) на кансервы „Згушчонае малако“ у расфасоўцы 400 і 410 грам нето—да цэн, зацверджаных на гэтыя кансервы у расфасоўцы 420 грам нето;

е) на кансервы „Цэльныя памідоры“ у расфасоўцы 820 грам нето—да цэн, зацверджаных на кансервы „Цэльныя памідоры“ у расфасоўцы 815 гр. нето;

ж) на кансервы „Перац“, „Баклажаны“, „Памідоры“, „Кабачкі“, „Фаршырованныя“ і „Сотэ“ у расфасоўцы 330 гр.—нето—да цэн, зацверджаных на гэтыя кансервы ў расфасоўцы 320 грам нето;

з) на кансервы „ікра баклажаная“ і кабачковая ў расфасоўцы 330 грам нето—да цэн. зацверджаных на гэтыя кансервы ў расфасоўцы 320 грам нето;

і) на кансервы „Баклажны сотэ“ у расфасоўцы 820 і 830 грам нето—да цэн, зацверджаных на кансервы „Баклажаны сотэ“ ў расфасоўцы 850 грам нето;

к) Сельдзь беламорская, мурманская чарнаморская ў тамаце і кількі ў расфасоўцы 500 грам—да цэн на гэтыя кансервы ў банцы 520 грам нето;

4. Абавязаць усе базы і склады гандлюючых арганізацый агледжваць (парцыённа) кансервы кожны раз перад адпраўкай у магазіны. У выпадку паніжэння гатунковасці кансерваў супроць маючыхся сертыфікатаў, або адсутнічання на этыкетах кансерваў абазначэння гатунковасці кансерваў, базы і склады абавязаны аклеіць кансервы паклейкамі з указаннем гатунка (або паставіць на банках штампы з паказаннем гатунка).

Абавязаць гандлёвую сетку не пазней 10 дзён са дня атрымання гэтай пастановы на месцах аглядзець, з удзелам інспекцыі па якасці, кансервы, якія ёсць у магазінах і паставіць на іх штампы з указаннем гатунка кансерваў.

5. Гэтую пастанову ўвесці ў дзеянне са дня атрымання яе на месцах.

Нам. Народнага Камісара Унутранага гандлю СССР **З. Балодін.**

# Новыя рознічныя цэны на маргарын

## Загад па Народнаму Камісарыяту Унутранага гандлю БССР

28 мая 1935 г. **№ 179.** г. Менск.

На падставе распараджэння Саюзнаркамунутгандля № 730 ад 25 мая 1935 г. загадваю:

1. Устанавіць з 1-га чэрвеня 1935 г. новую прадажную рознічную цану адкрытай прадажы:

а) на маргарын I гатунку . . . . 14 руб. за кгр.
б) на масла-маргарын . . . . . . 17 руб. „ „
в) на марго-гусалін . . . . . . 17 руб. „ „

2. Устанавіць скідку ў карысць гандлюючых арганізацый для „Гастранома“ і „Бакалеі“—10 проц., для іншай гандлёвай сеці—9 проц.

3. Пераацэнку маргарына правесці 31 мая. Акты пераацэнкі падпісаць загадчыкам магазінаў і прадстаўніком торга. Розніцу ад пераацэнкі аднесці за рахунак дзяржбюджэта.

Нам. Наркома Унутранага Гандлю БССР **І. Верба**

# ДАДАТКОВЫ ПРЭЙСКУРАНТ

## Камерцыйных цэн на новыя гатункі баваўняна-папяровых вырабаў.

| Назва тавараў | Трэст ці фабрыка. | № стандарта | Шырыня гатовага тавара ў *см* | Камерцыйн. цана ў руб. | і кап. |
|---|---|---|---|---|---|
| Цік пестраткан. матр. № 327 в 44/38 | Александр. | 6/ст. | 79—82 | 3 | 65 |
| Крэтон " " № 325-в 44/38 | " | " | 63—65 | 2 | 05 |
| Сіцэц № 06-а 54/50 набіўн. і гладкі | " | " | 60—62 | 1 | 85 |
| " № 09-а пл. 44/60 набіўн. Шуйскі | " | " | 72,5—75,5 | 2 | 35 |
| Саржа № 110 пл. 44/60 наб. | " | " | 74—77 | 2 | 85 |
| Ткань жакардн. з штучнага шолку арт. 51 | Маскоўск. | " | 62—63 | 5 | 60 |
| " " арт. 52 | " | " | 78—70 | 7 | — |
| " " арт. 53 | " | " | 62—63 | 5 | 60 |
| " " арт. 54 | " | " | 78—80 | 7 | — |
| " " арт. 55 | " | " | 62—63 | 4 | 50 |
| " " арт. 56 | " | " | 78—80 | 5 | 75 |
| " " арт. 57 | " | " | 62—63 | 5 | 60 |
| " " арт. 58 | " | " | 78—80 | 7 | — |
| " " арт. 59 | " | " | 62—63 | 5 | 20 |
| " " арт. 60 | " | " | 78—80 | 6 | 45 |
| " " арт. 61 | " | " | 62—63 | 4 | 75 |
| " " арт. 62 | " | " | 78—80 | 6 | — |
| " " арт. 63 | " | " | 62—63 | 4 | 75 |
| " " арт. 64 | " | " | 78—80 | 6 | — |
| Ткань ручнікоў. вафельн. № 828 | " | " | 59—— | 3 | 50 |
| " гладка-краш. | Арэхаўскі | " | 63—65 | 7 | — |
| Холст палат. набіўн. кайма асоба проч. краш. № 833 | Калінінск | " | 52—53 | 2 | 35 |
| Вельвет-корд лг. краш. № 880 | Глухоўскі | 6/с | 62—— | 7 | 50 |
| Спец-шагрэнь краш. № 420/80 | " | " | 66—68 | 3 | 45 |
| Паплін пестраткан. № 114/38 | " | " | 76—78 | 3 | 90 |
| Сарпінка пестраткан. | Пестраткань | 740 | 60—62 | 2 | 65 |
| Вуаль набіўная | " | 6/ст | 78—— | 10 | — |
| Габардзін уплотн. | " | " | 94—95 | 7 | 25 |
| Шэміз-плецёнка спорт № 780 | " | " | 77—79 | 3 | — |
| Шэміз-плецёнка спорт вузкі | " | " | 59—61 | 2 | 15 |
| Фулярцін набіўны | 2-гі і Іванаўскі | " | 62—— | 2 | — |
| " " | " " | " | 74—— | 2 | 40 |
| | | | | За штуку | |
| Платкі насавыя міткал. проч. наб. | " " | 28-а | 35,5 × 35,5 | — | 35 |
| " галоўн. наб. № 58/50 | " " | 6/с | 73 × 73 | 2 | 05 |
| " " № 530 | Ленхлоппром | " | 78 × 78 | 2 | 15 |
| Скацерці ручн. набойкі па малескіну | Маскоўск. | 302 | 134 × 206 | 33 | 50 |
| " " " " | " | " | 134 × 134 | 21 | 50 |
| " " па рэпсу | " | " | 136 × 206 | 33 | 50 |

ПАДСТАВА: пастанова Наркамунутгандля СССР № 251 ад 14 красавіка 1935 г.

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

г. Минск, Советская ул. Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

Сиропы голубичн. и яблочн. — 1000 декалитров — 40 р. 85 к. за декалитр. Расчет акцептом.

Вино яблочн. и клубничн. — 40.000 декалитров — 52 р. декалитр. Расчет акцептом.

Желуд.—кофе—100 тонн в расфасован. пачках по 250 и 500 грамм в пачке—2 р. 30 к. за кгр., франко-вагон станция отправления. Расчет акцептом.

Патока паровая—10 тонн (карамельная—7 тонн и пряничная 3 тонны)—2425 руб. тонна, франко-склад. Расчет акцептом.

Тесто яблочное—15 тонн—1080 руб. тонна, франко-склад продавца. Расчет акцептом.

Паточный искусственный мед—10 тонн—2000 р. тонна, франко—склад. Расчет акцептом.

Повидло—50 тонн—3100 руб. тонна, франко-склад. Расчет акцептом.

Патока огневая—10 тонн—1900 руб. тонна, франко склад. Расчет акцептом.

Повидло ягодное: брусничное—15 тонн, клюквенное—10 тонн—3 р. 50 к. кгр., франко-склад продавца. Расчет акцептом.

Платки народные—9400 штук—от 4 р. 71 к. до 13 р. 09 к. штука. Платки крашеные—600 штук—13 р. 70 к. Расчет акцептом.

Чемоданы гранитолевые фанерные—500 штук разных размеров по цене от 16 р. 24 к. до 31 р. 10 к. Расчет аккредитивом.

Обычайка сосновая—900 коп.—32 р. за копу, франко-вагон станция отправления. Расчет акцептом.

Галипот—100 тонн—1035 руб. тонна франко-станция отправления. Расчет—50 проц. аккредитивом—и 50 проц. акцептом.

Скипидар белый переочищенный—200 тонн—2165 руб. тонна, франко-цистерна. Расчет—20 проц. аванса, остальные—акцептом.

Асфальтовый лак—20 тонн—1032 р. тонна, клейбомасса—50 тонн—553 руб. тонна, смола строительная—75 тонн—598 р. тонна, колесная мазь—100 тонн—391 руб. тонна, франко—склад производства. Расчет аккредитивом.

Деготь сосновый химический—25 тонн—900 руб. тонна, франко-завод. Расчет акцептом.

Смола строительная—100 тонн—480 руб. тонна, франко-завод. Расчет акцептом.

Уголь древесный сосновый—2000 тонн—274 р. тонна, франко-вагон станция отправления. Расчет акцептом.

Сани—1000 штук—42 руб. 20 к. штука крестьянские и 54 р.—городские. Расчет акцептом.

Рогожка крашенная-осиновая—100 тыс. штук—1 р. 20 к. штука, франко-склад.

## СПРОС ТОВАРОВ

Кисти малярные, нитки на катушках, пряжа всех номеров белая и крашеная, шелкискусственный, метилл фиолет, жидкое стекло, кармарин, канифоль, аллюминиевые квасцы, окись марганца молотая, перекись марганца, свинцовый гнет, сода кальцинированная, тоже каустическая, отходы от саломаса, воск пчелинный натуральный, парафин, негризин комовой в кусках, технический рыбий жир, отходы от рыбьего жира, сани крестьянские и городские, полоз дубов., обод дубов. и ясеневый, спица дубовая и ясеневая, детские салазки городского типа, деревянные лопаты, деревянные корыта, метлы, березовые, оглобли и дручки березовые, рогожи и рогожные кули, лак асфальтовый, гуталин черный и желтый, технический жир, краски эмалевые всех цветов, живица, известь негашеная, стружка фруктовая, гололит цветной, целлулоид, клей столярный, картон разный, оберточная бумага, фуза, саломазь, соляная кислота, краски анилиновые нефасонные, рога крупного рогатого скота, пеньковые и льняные отходы, железо сортовое разное, железо листовое, проволока разная, отходы сортового и листового железа, железо упаковочное, резина для подошвы, корзины дорожные багажные, бочки дубовые, пиломатериал, тарные ящичные комплекты, бочковая клепка, скипидар белый, лимонный, смола сосновая, деготь березовый, галипот пек сосновый, круглый лес.




Выданне Наркамунутгандлю БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Д. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 667. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2886.